*Вярхоўны Савет галасуе за вяртанне льготаў (стар. 2)*

*Што стаіць за абяцаннем «Беларусбанка» кампенсаваць страчаныя ўклады (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 45.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

5 сакавіка 1996 г. № 16 Кошт свабодны

## Дзень Волі-96

*Васіль Быкаў узначаліў грамадскі камітэт па святкаванні 25 Сакавіка 78-й гадавіны абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.*

**У аргкамітэт увайшлі таксама Станіслаў Багданкевіч, Рыгор Барадулін, Аляксандр Дабравольскі, Генадзь Карпенка, Зянон Пазьняк, Іосіф Сярэдзіч ды іншыя вядомыя палітыкі і дзеячы культуры.**

**Мяркуецца, што цэнтральнай падзеяй свята будзе шэсце ў Мінску ў нядзелю 24 сакавіка ад пляцу Незалежнасці да парку Янкі Купалы, дзе адбудзецца мітынг, які завершыцца культурнай праграмай.**

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**



## Багданкевічу не даюць сустракацца са сваімі выбаршчыкамі

**Выступаючы на сесіі ВС у раздзеле "Рознае", Станіслаў Багданкевіч папрасіў у дэпутатаў парады, як яму "пазбавіцца павышанай увагі прэзідэнта і вертыкальнай улады да маёй персоны".**

Два месяцы Кастрычніцкі райвыканкам сталіцы не дае Багданкевічу месца, дзе ён бы мог прыняць сваіх выбаршчыкаў. У рэшце рэшт, па сваёй ініцыятыве лідэр "Грамадзянскага дзеяння" дамовіўся з дырэктарам адной з мінскіх школ. Аднак у апошні момант дзверы ў школе аказаліся зачыненымі. Багданкевіч, паводле яго ных словаў, "сделал глупость", паведаміўшы мясцовай уладзе, што збіраецца прыняць сваіх выбаршчыкаў у будынку выканкаму — у выніку дзверы зачыніліся і ў гэтай установе. Таму дэпутат вымушаны быў правесці сустрэчу з людзьмі (чалавек 15, пераважна ветэраны) проста на вуліцы.

Багданкевіч выказаў здзіўленне тым фактам, што "ачагі цемрашальства" існуюць, аказваецца, не толькі ў Бабруйску, але і ў сталіцы.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

## За публікацыю верша ўзбуджана крымінальная справа

**На мінулым тыдні ў рэдакцыю віцебскай газеты "Выбар" заявіліся тры супрацоўнікі мясцовага КДБ і прад'явілі санкцыю на вобыск.**

Было абшукана не толькі памяшканне рэдакцыі, але і кватэры рэдактара газеты Барыса Хамайды і супрацоўніка рэдакцыі Уладзіміра Плешчанкі. Як высвятлілася, супраць "Выбара" Пракуратура Рэспублікі ўзбудзіла крымінальную справу па факту публікацыі ў апошнім нумары газеты верша Славаміра Адамовіча "Убей президента". Пільныя пракуроры ўгледзелі ў гэтым вершы (аж страшна падумаць!): "заклік да забойства" прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Падчас вобыску былі перагледжаны ўсе паперы. Арыгінал верша быў забраны (разам з кампутарам ды іншымі рэдакцыйнымі рэчамі).

Цяпер перад пракурорамі стаіць больш складаная задача: у краіне ёсць сотні розных прэзідэнтаў (асацыяцый, фірм і г.д.), а ў вершы не называецца канкрэтнае прозвішча, і як тут даказаць, што аўтар заклікае ўчыніць замах менавіта на прэзідэнта РБ.

**Уладзімір СУПРАНЁНАК**

## «Беларуская перспектыва» заклікае ствараць Камітэты грамадзянаў

"Прэзідэнтамі Ельцынам і Лукашэнкам былі падпісаныя дамовы, рэалізацыя якіх прывядзе да ліквідацыі Беларусі як дзяржавы", — так лічыць грамадскі навукова-аналітычны цэнтр "Беларуская перспектыва". Вядомыя палітыкі, вучоныя і журналісты, сярод якіх Валянцін Голубеў, Аляксандр Фядута, Павел Лойка, Валянціна Трыгубовіч ды іншыя, звяртаюць увагу грамадскасці краіны на тое, што прапанова аб стварэнні сумесных з Расіяй органаў дзяржаўнага кіравання не была ўзгоднена з Вярхоўным Саветам Беларусі. "Беларуска-расійскія дамовы ад 27 лютага пярэчаць Кастытуцыі Рэспублікі Беларусь і суверэнітэту краіны," — сцвярджае "Беларуская перспектыва" і заклікае грамадзянаў краіны ствараць Камітэты ў падтрымку Канстытуцыі і незалежнасці.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Дараванне даўгоў – рэкламны трук?

Запазычанасць за энерганосьбіты Расіі скасаваная толькі на ўзроўні паміж дзяржавамі, а прадпрыемствы ўсё адно павінны сплочваць свае даўгі.

Так двухсэнсоўна патлумачыла пазіцыю беларускага ўрада намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва сп.Голубева на нарадзе ў Гродне. Што датычыць бягучай запазычанасці, дык яе прадпрыемствы павінны сплочваць адразу стопрацэнтна, інакш яны будуць адключаныя ад "трубы". Напрыклад, з гэтай прычыны падача газу перапынена аб'яднанню "Ваўкавыскцэменташыфер".

З гэтага могуць вынікаць дзве высновы. Першае. Магчыма, што беларускі ўрад, атрымаўшы дараванне ўсіх пазык за расійскія энерганосьбіты падчас візіту Лукашэнкі ў Маскву, хоча спагнаць і бягучыя, і дараваныя сумы з прадпрыемстваў, і тым самым, вырашыць свае бюджэтныя праблемы. Другая выснова: скасаванне Беларусі запазычанасці за энерганосьбіты з боку Ельцына было не больш як рэкламным трукам, а значыцца, блефам?

**С.А.**

# ЛАТАРЭЯ

## Ёсць шанц выйграць тэлевізар
## У вас засталося пяць дзён!



**Час ідзе!**

**Наперадзе – выходныя дні. Таму не адкладвайце да апошняга.**

**Падпіска на газету СВАБОДА прымаецца ва ўсіх аддзяленнях пошты і Саюздруку да 10 сакавіка.**

**Кошты – ранейшыя.**

СВАБОДА вырашыла зрабіць прыемны падарунак сваім падпісчыкам.

Кожны, хто паспее аформіць падпіску на II квартал (а яна завяршаецца 10 сакавіка), можа стаць удзельнікам нашай латарэі. Галоўны прыз — каляровы тэлевізар. Акрамя таго, будзе разыграна яшчэ шмат іншых не менш цікавых і карысных прызоў.

Розыгрыш будзе праводзіцца публічна 20 красавіка.

**Калі вы хочаце ўдзельнічаць у латарэі, трэба зрабіць дзве рэчы:**

*1) Аформіць падпіску на газету СВАБОДА на II квартал (красавік—чэрвень). Падпіска прымаецца да 10 сакавіка ва ўсіх аддзяленнях пошты і Саюздруку. Дзеля гэтага зусім не абавязкова выразаць падпісны купон з газеты — вы можаце скарыстацца стандартным бланкам на пошце. Галоўнае — паспець падпісацца да 10 сакавіка.*

*2) Аформіўшы падпіску, выражце з гэтага нумара газеты квіток з надпісам "Латарэя", запоўніце яго і дашліце ў рэдакцыю СВАБОДЫ. Прычым, адасланы квіток трэба не пазней 25 сакавіка г.г. (па паштовым штэмпелі).*

Квіткі "Латарэя" будуць нумаравацца ў рэдакцыі і 20 красавіка — розыгрыш. Калі пажадаеце, зможаце прысутнічаць пры гэтым і бачыць усё на свае вочы. Дзе гэта будзе адбывацца — СВАБОДА паведаміць.

І самае галоўнае: прыз вы атрымаеце толькі ў тым выпадку, калі прад'явіце аплочаную падпісную квітанцыю на II квартал або на ўсё паўгоддзе. Таму абавязкова захоўвайце падпісны купон.

***Падпіска на СВАБОДУ каштуе 27 тысяч рублёў. Аформіўшы падпіску, вы гарантавана будзеце атрымліваць цікавую газету і, акрамя таго, маеце шанц выйграць наш прыз.***

**Рэдакцыя СВАБОДЫ**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь
АБАНЕМЕНТ на газету **63887**

**СВАБОДА** Колькасць камплектаў

На 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс) (адрас)

Каму ____________ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | Літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету **63887**

**СВАБОДА**

| Кошт | падпіскі ______ руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|
| | пераадрас. ______ руб. | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс) (адрас)

Каму ____________ (прозвішча, ініцыялы)

ЛАТАРЭЯ
ЛАТАРЭЯ
ЛАТАРЭЯ
ЛАТАРЭЯ
ЛАТАРЭЯ
ЛАТАРЭЯ
ЛАТАРЭЯ

**ЛАТАРЭЯ**

СВАБОДА
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

Прозвішча, ініцыялы
(або назва фірмы)

Ваш адрас

# Старое волшебное слово – компенсация

*Оно незримо присутствует в чаяниях большинства вкладчиков. Осчастливит ли их «Беларусбанк»?*

Тысячи людей стали жертвами самых различных организаций, собравших деньги и успешно почивших в Бозе. Правда, в Беларуси этот бизнес не приобрел такого размаха как в России, где само слово "МММ" и "вкладчик" уже давно стало нарицательным. Зато население наших стран объединяют испарившиеся (и не без помощи государства) вклады в бывшем едином Сбербанке СССР.

### Началось?

Уже немало было написано (в том числе и СВАБОДОЙ) о самых разнообразных попытках использовать эту тему для столь же разнообразных целей. Писали и о намерении объединенного АСБ "Беларусбанка" индексировать вклады населения в тысячу раз, однако механизм этого действа так и остался большим секретом.

И вот, недавнее посещение сберкассы ознаменовалось открытием интересного факта — система уже действует с 19 февраля. Около блеклого листка с заголовком "Условия по компенсационным вкладам АСБ "Беларусбанк" собралось несколько человек довольно пожилого возраста, безуспешно пытающихся определить, что же это такое, компенсационные вклады, — долгожданное возвращение исчезнувших сбережений или очередное надувательство.

### Как из одного сделать тысячу

Механизм "компенсационных вкладов" довольно прост. Для того чтобы банк произвел вам компенсацию вклада нужно для начала предъявить справку о



его наличии на 1 января 1991 года. Где ее взять так толком выяснить и не удалось. Сотрудники "Сбербанка" в один голос отвечали, что компенсациями занимается "Беларусбанк", у них мол, и надо спрашивать. На вполне резонную реплику о том что "Беларусбанк" и "Сбербанк" еще осенью вроде бы слились в одно целое, вразумительного ответа за исключением иронических усмешек так и не последовало.

После получения этой справки нужно внести на специальный счет в "Беларусбанке" вклад в 2.000-кратном размере от суммы находившейся в Сбербанке по состоянию на 1.01.91 г. Т.е. если у вас лежало 3.000 рублей, то теперь нужно положить на счет "всего лишь" 6 млн. причем на срок в 1 год. А если будет внесено меньше чем нужно средств, то пропорционально будет уменьшена и сумма компенсационного возмещения.

На эти 6 млн. будут начисляться проценты по ставке установленной банком. В данный момент она равна половине ставки рефинансирования Нацбанка, т.е. 33 процента годовых. По окончании года вам возвращается внесенная сумма с процентами и выплачивается "компенсационная премия" в размере 1/2 от внесенной суммы, т.е. 3 млн. Таким образом, через год вы возможно получите — 6 млн.(внесенная сумма)+1,98 млн.(начисленные проценты)+3 млн. (компенсационная премия)=10,98 млн. рублей. Если подсчитать доходность этого вложения, то получим 83 процента годовых.

Как видно индексацией (под которой у нас предполагают бесплатную раздачу денег) и не пахнет. Это обыкновенный депозит с несколько более высоким, чем обычно в "Сбербанке" доходом. Причем сравнимый с самыми высокими процентными ставками по депозитам для физических лиц, предлагаемых коммерческими банками. Например "Белагропромбанком" — 84 процента годовых (причем по месячному вкладу, а не годовому). А как известно, длительный срок вложения увеличивает риск.

### И это еще не все

Можно сказать о более высокой надежности АСБ "Беларусбанка", обеспечиваемой государством. Однако и это преимущество сводиться на нет самой интересной частью механизма — дополнительными условиями и оговорками. Например, процентная ставка по вкладу может быть в любое время изменена банком. И высока вероятность (учитывая неидеальное финансовое положение банка), что изменится она отнюдь не в сторону увеличения. Ко всему впридачу, согласно "Условиям...", при установлении Нацбанком минимальной ставки по депозитам (срочным и до востребования), банк вправе увеличить срок хранения средств на счету, правда предупредив об этом вкладчика через СМИ. Так что Национальный банк легко может продлить сроки нахождения средств на счету, и в этой связи хочется заметить что на пост председателя правления НБ претендует Т.Винникова, до недавнего времени возглавлявшая АСБ "Беларусбанк".

Если же кому-нибудь понадобятся деньги до того как пройдет год и он захочет их снять со своего компенсационного счета, то в этом случае он потеряет право на компенсационную премию, а его доходы на вложенные деньги будут пересчитаны и выплачены по ставке до востребования (12 процентов годовых на данный момент). Единственное, что можно получить ежемесячно — это процентный доход.

### Печальный вывод

Увы, компенсации в прямом смысле этого слова не состоится. Так стоит ли нести деньги в АСБ "Беларусбанк" на целый год, причем не будучи уверенным, что доход благодаря дополнительным условиям достигнет подсчитанной величины. Весь в таком размере его можно получить и в обыкновенном коммерческом банке без всякого учета потерянных сбережений и без разглагольствований о компенсации.

Но перспективы этого начинания в любом случае крайне низки. Где обыкновенному человеку взять довольно большую сумму денег для внесения на счет? Дожидаться президентского "8 марта"?

**Алесь САДОВСКИЙ**

### «Беларусбанк» намерен издавать газету

**Акционерный сберегательный банк "Беларусбанк" намерен начать выпуск собственного печатного издания.**

Газета "Беларусбанка" будет информировать своих читателей о деятельности банка, его финансовых и инвестиционных проектах. Ожидается, что газета будет иметь сравнительно широкий для специализированного издания круг читателей. Ведь только в системе "Беларусбанка" непосредственно работает более 20 тысяч человек. На должность главного редактора печатного органа "Беларусбанка" планируется некто Вячеслав Сиваков.

### Задержаны предпологаемые убийцы

**Сотрудникам управления по борьбе с организованной преступностью МВД удалось задержать предполагаемых убийц председателя "Белмедбанка" Владимира Володько.**

Г-н Володько бесследно исчез 11 сентября минувшего года прямо из своего офиса. Причем сразу после его исчезновения была обнаружена записка с указанием перечислить в один из прибалтийских банков 300 тысяч долларов. Правда, предполагаемые преступники за выкупом не явились. Их арестовали по подозрению в совершении другого преступления и уже в процессе следствия удалось выяснить их причастность к "делу Володько". По признанию самих подозреваемых, они убили г-на Володько прямо в его банковском офисе и, завернув в ковер, отнесли в машину, затем вывезли в лес и закопали.

*СИМ*

**ДИАГНОЗ**

# Если у людей «едет крыша», значит это кому-то нужно

наше время человек находится под тяжестью постоянного психического гнета. Стрессовые ситуации, порождаемые безденежьем, социальной и бытовой неустроенностью, грубым давлением со стороны государственной пропаганды, ощущение своей незначительности и ненужности, перерастают в устойчивые неврозы и психозы, охватывающие все большее количество людей. Утрата жизненных перспектив и невозможность реально повлиять на сложившуюся ситуацию приводят к порождению в сознании человека идеологических химер и социальных иллюзий. Их спектр чрезвычайно широк: от идеализации прошлого и желания в него вернуться (лозунгом может служить фраза "мама, роди меня обратно"), до веры в некую одну идею или действо, способное стать панацеей от всех бед (например, "заграница нам поможет"). Состояние белорусского общества можно смело назвать состояние психической эпидемии. Поэтому трезвомыслящие, логически рассуждающие люди вызывают в народе неприятие и злобу, ибо несут с собой разрушение иллюзорным мирам, заставляя трезво взглянуть на ужасающую действительность.

Что же касается наших нынешних правителей, то они, напротив, всеми силами стремятся сохранить эту ненормальность в общественном сознании. Поскольку при существующем положении в социальной и экономической сфере и подобном стиле руководства, заключающемся в полной неспособности руководить сообразуясь с принципами очевидности и реальности, это единственный способ управлять народом. Только народ, способный почти мгновенно переходить от отчаяния к эйфории, от состояния отрешенности к ненависти и тут же снова впадать в прострацию, оставляет возможность манипулировать собой в угоду тем или иным сиюминутным политическим интересам.

Вот и льются с газетных страниц и телеэкранов потоки бреда. С умным видом преподносится очередная чушь, откровенная ложь выдается чуть ли не за высшую правду. В одном выступлении могут сочетаться запугивания и увещевания, призывы к консолидации и обещания стереть в порошок, взаимоисключающие тезисы "Народ с нами!" и "Кругом враги!"

Кстати сказать, взаимоисключающие высказывания в одном выступлении свидетельствуют не о его слабости, но о его силе, поскольку целью такого выступления является не рациональное убеждение, а создание определенной атмосферы, способствующей восприятию чего угодно, именно в силу отсутствия рациональных доводов. Примером такого высказывания могут служить типичные слова пылко влюбленного (влюбленность в принципе сродни помешательству): "Я тебя безумно люблю, но если ты меня разлюбишь, я тебя убью!"

Слова и поступки, совершенно неприемлемые в нормальном обществе, в психически инфицированном остаются совершенно безнаказанными. Они тот наркотик, который народ, однажды проглотив, вынужден и жаждет глотать снова и снова, чтобы химерический миф, ограждающий его от реальности, не рассыпался в прах под ее (реальности) жестокими ударами.

Но действительность все равно пробивает себе дорогу, и чтобы "спастись", многие вынуждены "бежать" еще дальше, погружаясь во мрак фанатизма (идеологического или религиозного) или оккультизма.

Совсем недавно мы были свидетелями деятельности муновцев, секты, преследовавшей более чем сомнительные цели, которые умудрились проникнуть для пропаганды своих идей даже в школы. Пытались расширить и развить свою сеть в Минске представители "Аум синрикё", остановило их не противодействие общества, а известные события в Японии и запрещение этой секты в России, откуда, кстати, и прибыли эти "миссионеры" к нам. В Беларуси, кстати, их встретили довольно благодушно и даже помогали устраивать встречи с "общественностью". Когда же "грянул гром", то отделались фразой типа: "Мы не знали, что они такие плохие, мы думали, они хорошие". Не оставили без внимания Беларусь и представители Богородичего центра и Белого братства, сект, давно признанных тоталитарными.

Впрочем, нет нужды детально разбираться с каждой из них, поскольку только по официальным данным на территории Беларуси действуют общины 26 конфессий и религиозных течений, а сколько общин официально не зарегистрировано? Глупо надеяться, что к примеру, сатанисты обратятся в Совет по делам религий с просьбой о регистрации. Беда в том, что у общества нет иммунитета против подобных организаций, что сама атмосфера неустроенности и страха перед будущим способствует их буйному цветению. Поэтому и лезут со всех щелей эти "исцелители", зачастую даже сами не подозревая, кто же они на самом деле. Предлагая на входе решение всех проблем: "Приходите, и мы вам поможем", "Прочтите эту книгу, и вам все станет ясно", "Два-три сеанса, и мы гарантируем полное исцеление", на выходе, пропустив через себя человека, возвращают обществу индивида с ущербной психикой — этакого зомби, которому мерещатся кругом козни злых сил и который в пламени будет распевать молитвы, вместо того, чтобы тушить пожар. Кстати, анекдот по этому поводу: Наводнение. На вершине холма стоит человек и молится: "Господи, спаси меня, Господи, спаси!.." К нему подплывает лодка, и люди, сидящие в ней, кричат ему: "Прыгай к нам!" — "Нет! — гордо отвечает он. — Бог спасет меня!" — и продолжает молиться. Вот он уже по пояс в воде, снова подплывает лодка, и снова отказ. Вот уже по шею, — то же самое. В конечном счете вода накрывает его с головой и он тонет. Человек попадает на тот свет, предстает перед Богом и спрашивает: "Господи, я так молился тебе, почему же ты мне не помог?" — и слышит ответ: "Как же не помог, я же 3 раза лодку посылал!"

Ни в коем разе я не призываю к преследованию сектантов, это только ухудшит дело. Конечно, среди них попадаются шарлатаны, но по большой части — это люди с больным сознанием, которые пытаются помочь другим, хотя в помощи нуждаются сами. И как не горько это признавать, пока власти, осознанно или нет, будут поддерживать психозную атмосферу в обществе, народ, при помощи этих горе-исцелителей, будет продолжать потихоньку сходить с ума.

**Александр ФЕДОРОВ,** *психиатр*

